Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск
21-27 лютага 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№8 (96)



# РЫБНЫ ЦЕНЬ

*МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе і раёне 3 рыбныя цэхі. Неўзабаве адкрыецца яшчэ столькі.*


*У базарны дзень.*

СП "Еўрапейскі стыль" паставіла мясцоваму райспажыўтаварыству (цэх у вёсцы Краснае) 20 тон скумбрыі. Мінскі цэнтр стандартызацыі і метралогіі пацвердзіў якасць тавару. Пасля вэнджання рыба трапіла ў гандаль, але пакупнікі скардзіліся на знешні выгляд і смакавую якасць. Спецыялісты цэнтра гігіены і эпідэміялогіі правялі аналіз, знайшлі гельмінты. 10 тон гандляры паспелі рэалізаваць.

Па той жа прычыне забракавалі 7 тон рыбы, якая ішла на засол у фірме "ГіС". Таму рыбу спачатку разбіралі, а потым ужо салілі.

Дзяржаўны гандаль набыў у Вілейскім рыбгасе свежага карпа. Пад луской скруціліся малюсенькія чарвячкі. Калі луску здымаеш, "кватаранты" выпростваюцца. Ад партыі адмовіліся, і яна паехала на перапрацоўку ў Нарач.

Попытам карыстаецца засоленая рыба. Але не заўсёды вытрымліваецца тэхналогія засолу. Разам з прадуктам мы ўжываем тыя самыя гельмінты. Скаргі былі на магазін №61, які гандляваў таварам таго ж "ГіСа": рыбай з чырвонымі вачыма, спецыфічным сырым рыбным пахам.

*ВІЛЕЙКА. Штодзень па 50-100 кг засольвае для сваіх патрэб грамхарч. Адкрываецца рыбцэх на гармалзаводзе.*

*Заканчэнне на 2-й ст.*

## Навіны

### Куды знікаюць мэры?

*Колькі месяцаў таму змянілася вертыкальнае кіраўніцтва ў Ашмянах. А ў Смаргоні выканкомы, як памятаюць чытачы "РГ", наогул аб'ядналіся. Куды ж пайшлі працаваць былыя першыя асобы?*

Экс-мэр Ашмянаў Іван Раманоўскі стаў кіраўніком мясцовага аддзялення Аграпрамбанка. А былы старшыня Смаргонскага гарвыканкома Ілья Рак працуе намеснікам дырэктара фірмы "Вікор" па агульных пытаннях.

*Аддзел інфармацыі.*

### З'ехаліся аўтарытэты

*ВІЛЕЙКА. Нядаўна ў горад прыязджалі аўтарытэты.*

Сярод гасцей— заслужаны майстар спорту, чэмпіён XVIII Алімпійскіх гульняў Рамуальд Клім, заслужаны майстар спорту, бронзавы прызёр XXVI Алімпійскіх гульняў у Атланце маладзечанец Васіль Капцюг.

Вядомыя спартсмены ўдзельнічалі ў традыцыйным спартыўным вечары, што праходзіў у Доме культуры. Там падводзіліся вынікі выступленняў дзіцячых і дарослых калектываў за мінулы год. Віншавалі пераможцаў. Прычым ад горада пераважна ўручаліся грашовыя прэміі, ад раёна— падарункі.

*Аддзел інфармацыі.*

### Свята горш не будзе

*СМАРГОНЬ. Прафесійныя святы звычайна ўспрымаюцца як урачыстасць— прэміі, святочны стол.*

Упраўленне сельскай гаспадаркі паклапацілася аб сваіх спецыялістах і афіцыйна прызначыла "Дзень агранома" аж чатыры разы на месяц. Але па гэтых аўторках не святкуюць, а выязджаюць у гаспадаркі раёна (іх 12), каб паглядзець як тыя рыхтуюцца да вясны, дапамагаючы аператыўна вырашаць розныя пытанні.

*Тарэса КУМІШЧА.*

### У бухгалтарою— конкурс

*АСТРАВЕЦ. У камбінаце бытавога абслугоўвання праводзіцца конкурсны адбор на пасады бухгалтара і эканаміста. Падобнай сістэмай адбору кадраў ні на адным з мясцовых прадпрыемстваў не займаліся.*

Пайсці на гэты крок прымусілі дзве прычыны— патрэбнасць у такіх спецыялістах і мноства беспрацоўных на "біржы" працы з дыпломамі бухгалтара і эканаміста.

У конкурсе прынялі ўдзел 12 чалавек, але тым не менш адно месца бухгалтара вакантнае. І гэта нягледзячы на тое, што вакансіямі зацікавіліся ў суседнім Ашмянскім раёне.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Святкаванне і пратэст

*Вясна-97 чакаецца гарачай, што пацвердзіў чарговы сойм БНФ.*

Выконваючы абавязкі старшыні арганізацыі Л. Баршнэўскі вызначыў прыярытэтныя напрамкі дзейнасці БНФ. Гэта правядзенне вулічных акцый пратэсту ў Мінску, умацаванне і пашырэнне структур БНФ і актывізацыя іх дзейнасці па ўсёй краіне.

Ю. Хадыка акрэсліў асноўныя шляхі цяперашняй дзейнасці. Сярод іх грамадскае непадпарадкаванне, аднаўленне дзейнасці Вярхоўнага Савета XIII склікання дзеля прыняцця новага выбарчага закона і правядзення новых выбараў прэзідэнта і Вярхоўнага Савета пад міжнародным наглядам, супрацоўніцтва з любымі партыямі дзеля паскарэння краху рэжыму.

У сувязі з тым, што 24 лютага Савет Еўропы будзе разглядаць вынікі работы місіі, якая нядаўна наведала Беларусь, вырашана правесці чарговую акцыю— агульнарэспубліканскае пікетаванне.

2 сакавіка апазіцыя мае намер адсвяткаваць 930-годдзе Мінска, 15-га правесці мітынг у падтрымку Канстытуцыі 1994 года, 23-га сакавіка— адзначыць чарговую гадавіну БНР. Для ўдзелу ў акцыях запрашаюцца ўсе, каму дарагая Бацькаўшчына, яе дэмакратыя і незалежнасць. Не будзьце абыякавымі да сваёй будучыні, будучыні дзяцей і ўнукаў.

*Мікола ЛІННІК.*

НАСТУПНЫ НУМАР
№9
ТОЎСТЫ



## Жыццё віруе

### Мясцовая перабудова

*АШМЯНЫ. Новы старшыня райвыканкома Віктар Пракопчык сур'ёзна ўзяўся за справы— у "Белым доме" ідзе рамонт, развітваюцца з пасадамі кіраўнікі службаў, установ.*

Жыццё ж раёна ідзе звыклым ходам. А сам старшыня разам з новым першым намеснікам Аляксандрам Клімуком прымае наведвальнікаў па панядзелках з 9 да 13.

*Аддзел інфармацыі.*

## Чорная кошка АНОНС



У наступным нумары ў рубрыцы "Чорная кошка" будзе змешчаны матэрыял аб барацьбе з арганізаванай злачыннасцю ў рэгіёне.

## Пажары

### Без нагляду

*АСТРАВЕЦ. Марыянцы было чатыры, а Паўліку два. Страшная трагедыя на гэтым тыдні адбылася ў сям'і з вёскі Індрубка.*

Пакінуўшы дома без нагляду двух дзетак— чатырохгадовую Марыянку і двухгадовага Паўліка, бацькі пайшлі на работу. Ад дзіцячых забавак хата загарэлася. Пажарныя і брыгада "хуткай дапамогі", на жаль, выратаваць дзетак не змаглі. Дзяўчынка памерла па дарозе ў бальніцу, а хлопчык яшчэ пражыў да раніцы 18 лютага.

*Янук СІВАКОЎ.*

## Чуткі?

### Банды ў горадзе няма

*МАЛАДЗЕЧНА. За непрацяглы час дваіх грамадзян парэзалі нажом (адзін з іх памер). Аднаго так збілі, што памер у рэанімацыі.*

Па горадзе паўзлі чуткі— дзейнічае банда. Па словах начальніка крымінальнай міліцыі ГРАУС Уладзіміра Пагуды, падстаў лічыць, што ў горадзе дзейнічае банда, няма. Па ўсіх выпадках узбуджаны крымінальныя справы, вядзецца следства.

*Аддзел інфармацыі.*

## Юбілеі

### "Дзякуй" за 130 тысяч

*СМАРГОНЬ. У выпівох чарговая прычына для свята: медвыцвярэзніку споўнілася 20.*

Можа, гэта і не ўзрадуе 1421 наведвальніка, якія карысталіся паслугамі летась (сярод іх 10 жанчын, 344 непрацуючых). Бо за знаходжанне ў гэтай установе трэба выкласці больш, чым за аднапакаёвы нумар у гасцініцы— адну мінімальную зарплату. І тым не менш выпівохі шчыра ўдзячныя міліцыянерам за захоўванне рэчаў, дакументаў, яшчэ не прапітых грошай.

*Тарэса КУМІШЧА.*

## І такое здараецца

### Рыбачаць і ў аўтобусе

*ВАЛОЖЫН. У тую пятніцу салон аўтобуса быў, як бочка селядцамі, набіты пасажырамі. Гэтым рэйсам выпала дабірацца дадому і майму знаёмаму. Так павялося, што на "карме" салона звычайна месцяцца мужчыны. Кіруючыся гэтым няпісаным правілам, уладкаваўся там і Павел. Можа, гэта і прывяло да дарожнай аказіі.*

Напярэдадні выхадных заўсёды адчуваецца наплыў пасажыраў, таму ў аўтобусе нават сумку паставіць няма дзе. Перад дарогай у вакзальным буфеце Павел купіў кілаграм селядцоў, і, як на тое ліха, у сумку ўпакаваць не паспеў— празрысты пакецік з тлустымі, спакуслівымі на выгляд рыбінамі трымаў у руках. Паўгадзінны шлях у перапоўненым аўтобусе цягнуўся досыць нудна. І вось, нарэшце, патрэбны прыпынак.

Пасажыр ледзьве праціснуўся да дзвярэй, а калі неўзабаве выбраўся з аўтобуса— з палёгкай уздыхнуў. Але як толькі зірнуў на свой дарожны рыштунак, то ўздыхнуць небараку прыйшлося яшчэ не раз. Бо мяшэчак з селядцамі прыкметна апусцеў. У поліэтыленавым пакеціку нехта зрабіў ладную дзірку, і праз яе, як праз лунку, "вывудзіў" чатыры апетытныя селядцы. Можа, хаўруснік не паспеў закончыць сваю спланаваную "аперацыю", а можа, хацеў пераканаць, што і ў злодзеяў не такая чэрствая душа,— бо адзін селядзец пакінуў і гаспадару.

Не ў гуморы дабіраўся Павел дадому. Шкада было апошніх грошай, што пайшлі на такую няўдалую пакупку, непрыемна і крыўдна рабілася ад таго, што тваім даверам пакарысталіся нахабныя аўтобусныя прайдзісветы. Але на тое, відаць, і шчупак у рэчцы, каб карась не драмаў.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

Сведчаць дакументы

# ХРОНІКА ЗЛАЧЫНСТВАЎ 1939-1941

*Працяг. Пачатак у №№28-34,37,39-41,43-51 за 1996 г.,№№1-4,6,7 за 1997 г.*

## Спіс асуджаных у Асобай Нарадзе на 25-е снежня 1940 г. па УНКУС Вілейскай вобласці.

1106. Пяткевіч Ігар Дзміртыевіч– 25. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1107. Падмарскі Мікалай Рыгоравіч– 26. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1108. Пятрушко Фелікс Алюзевіч– 29. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1109. Падрэз Уладзіслаў Карлавіч– 29. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст.. Котлас
1110. Палінскі Ян Іосіфавіч– 29. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1111. Пісецкі Казімір Францавіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1112. Планета Станіслаў Сямёнавіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1113. Плюта Браніслаў Іосіфавіч– 27. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1114. Пяшко Віктар Феліксавіч– 2. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1115. Перджхала-Караль Аляксандр Іосіфавіч– 9. 6. 40 г.– 3 г. ВТЛ– ст. Котлас
1116. Пержыхала Казімір Іосіфавіч– 29. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1117. Пажарская Марыя Антонаўна– 27. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Карабас
1118. Піпалак Зігізмунд Іванавіч– 29. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– сат. Котлас
1119. Плотнік Арон Абрамавіч– 29. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ
1120. Піткевіч Ева Міхайлаўна– 25. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– г. Архангельск
1121. Петрык Віталь Антонавіч– 2. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1122. Пузіроўская Марыя Яўгенаўна– 26. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Карабас
1123. Пяткевіч Ільл Дамінікавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1124. Прозвішча выкраслена
1125. Піткевіч Абрам-Янкель Іцкавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1126. Піткевіч Давід-Янкель Іцкавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1127. Пракоф'еў Андрэй Мацвеевіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1128. Піткевіч Антон Антонавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1129. Піткевіч Вітольд Францавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ–ст. Котлас
1130. Плюшчынскі Станіслаў Францавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1131. Паўтэль Іосіф Казіміравіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ
1132. Пепка Юзаф Людвігавіч– 29. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1133. Пілецкі Іван Георгіевіч– 29. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1134. Петрусевіч Канстанцін Іванавіч– 25. 11. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Сама
1135. Рышман Рамонт Францавіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
1136. Рузга Сцяпан Восіпавіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
1137. Рымцэвіч Альбін Ежавіч– 6. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1138. Рэпіч Аляксей Сцяпанавіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
1139. Рымовіч Станіслаў Казіміравіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
1140. Рагоўскі Абрам Ківелевіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Жытомір
1141. Рымкевіч Антон Міхайлавіч– 17. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1142. Радзько Франц Альфонсавіч– 19. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1143. Рудак Уладзімір Мацвеевіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
1144. Разенблюм Вольф Рыгоравіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
1145. Радзецкі Уладзімір Уладзіміравіч– 10. 8. 40 г.– 3 г. ВТЛ– ст.Безымянка
1146. Разнюк Рохман Ісеравіч– 21. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1147. Рэйн Моўша Янкелевіч– 21. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1148. Рундберг Якуб Янкелевіч– 26. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1149. Ротэр-Урога Якаў Давідавіч– 26. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1150. Радвіла Юлія Вікенцьеўна– 10. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
1151. Рукуць Марыя Францаўна– 19. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
1152. Прозвішча выкраслена
1153. Рынг Саламон Гіршавіч– 26. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1154. Рацына Эльяш Моўшавіч– 21. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1156. Руднік Ісак Мордухавіч– 5. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Марыінск
1156. Ражок Казімір Якаўлевіч– 23. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
1157. Ражкоўскі Васіль Уладзіміравіч– 19. 7. 40 г.– 3 г. ВТЛ– г. Варашылаўск
1158. Ракецкі Сяргей Ямяльянавіч– 10. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
1159. Рода Іван Вікенцьевіч– 26. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1160. Роўда Вікенцій Кандратавіч– 26. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1161. Радзюк Рыгор Уладзіміравіч– 5. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1162. Радзівіловіч Эдуард Антонавіч– 10. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Безымянка
1163. Разумоўскі Валянцін Канстанцін.– 10. 8. 40 г.– 8 г. ВТЛ– ст. Безымянка
1164. Ражынскі Георгій Францавіч– 13. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1165. Раўлаўскі Станіслаў Якубавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1166. Рудрык Вела Маісееўна– 23. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
1167. Рамцэўскі Эдзіслаў Станіслав.– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– г. Архангельск
1168. Рубін Шукем-Хацкель Лейбавіч– 134. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1169. Рукшын Іцык Мендзелевіч– 22. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1170. Рачко Ілья Анастасьевіч– 13. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1171. Рэрыхава Стэфанія Іванаўна– 5. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
1172. Рабашэўскі Вацлаў Канстанцінавіч– 23.. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1173. Раманаў Іван-Абрам Янкелевіч– 29. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1174. Рудкоўскі Станіслаў Іванавіч– 19. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1175. Рамшэліс Алена Людвігаўна– 19. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
1176. Рамшэліс Канстанцін Людвігавіч– 19. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1177. Рамшэвіч Юзаф Іванавіч– 19. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1178. Рымаш Казімір Ігнатавіч– 19. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1179. Разумчык Васіль Васільевіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1180. Раманоўскі Сцяпан Ігнатавіч– 13. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1181. Рагульскі Антон Валянцінавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1182. Рудзеў Іван Іванавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1183. Рагашонак Лявон Станіслаавіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1184. Раманчык Франц Ігнатавіч– 27. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– г. Пенза
1185. Рыбак Ігнацій Іванавіч– 21. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1186. Рымовіч Флеран Адамавіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1187. Радзевіч Вікенцій Валяр'янавіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Карабас
1188. Равайт Баляслаў Уладзіслававіч– 2.. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1189. Рабушка Антон Сцяпанавіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Карабас
1190. Раманаў Іван-Абрам Янкелевіч– 20. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1191. Рубінковіч-Рудніковіч Уладзіслаў Рам.– 29.6. 40 г.– 8 г. ВТЛ– г. Арханг.
1192. Рогініс Вільгельм Іванавіч– 29. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1193. Рудзіч Уладзімір Мікалаевіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1194. Разэнштэйн Мартха Якаўлевіч– 26. 77, 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1195. Рубін Лазар Лейбавіч– 26. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1196. Радзівановіч Улас Захаравіч– 29. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Карабас
1197. Рымкевіч Аляксандр Антонавіч– 25. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1198. Раткевіч Пётр Антонавіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1199. Рэун Усцін Францавіч– 27. 6. 4– г.– 5 год ВТЛ
1200. Рудкоўскі Казімір Станіслав.– 29. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1201. Рудніцкі Андрэй Усцінавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1202. Радзівіловіч Казімір Канст.– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– Красн. Край
1203. Радзевіч Іван Маркіянавіч– 25. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1204. Рудзінскі Антон Адамавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1205. Равіч Баляслаў Эдуардавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1206. Рот Мікалай Эмануілавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1207. Рахман Саламон Ільянавіч– 29. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1208. Разенталь Абрам Яфімавіч– 25. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1209. Русак Аляксандр Якаўлевіч– 25. 11. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Сама
1210. Роўда Васіль Мікалаевіч– 25. 11. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Сама
1211. Рудзінаў Фёдар Андрэевіч– 25. 11. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Сама
1212. Рудштэйн Генах Гершавіч– 25. 11. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Сама
1213. Славінскі Панкрат Іванавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1214. Садоўскі Васіль Антонавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1215. Сваток-другі Міхаіл Мікалаевіч– 10. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1216. Свірко Іосіф Стэфанавіч– 13. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– Темлаг
1217. Свірыд Павел Станіслававіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1218. Сорнін Зосім Якаўлевіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1219. Сянько Пётр Дзям'янавіч– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1220. Стахавешы Леанід Трафімавіч– 2. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1221. Стэйнфельд Сымон Беньямінавіч– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1222. Студніс Міхаіл Адамавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1223. Свірскі Абрам Іосіфавіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1224. Сіповіч Калет Ігнатавіч– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– Севжелдорлаг
1225. Савіцкі Іосіф Антонавіч– 22. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– Севжелдорлаг
1226. Станішэўская Ганна Францішкаўна– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
1227. Снешка Станіслаў Карлавіч– 19. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1228. Сварцэвіч Фелікс Аппалікарпавіч– 19. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1229. Самоліс Уладзіслаў Іосіфавіч– 23. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1230. Сварцэвіч Зігмунд Гіганавіч– 22. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– Севжелдорлаг
1231. Сахановіч Міхаіл Пятровіч– 22. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– Севжелдорлаг
1232. Свірко Юзаф Антонавіч– 23. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1233. Сікевіч Фама Шлёмавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Поцьма
1234. Сачыўка Іван Аляксеевіч– 22. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Поцьма
1235. Сяргееўна Таццяна Георгіеўна– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
1236. Сяргееў Георгій Георгіевіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Кіеў

*Працяг будзе.*

# РЫБНЫ ЦЕНЬ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на 1-й ст.*

А пакуль што на рынку манапаліст "ГіС". ЦГіЭ і тут складзены акт аб продажы гэтай фірмай няякаснага тавару.

***СМАРГОНЬ. Засольваюць рыбу на заводзе аптычнага станкабудавання.***

Аднаго разу ўрачы пакаралі тэхнолага фірмы за парушэнне санэпідрэжыму. На рынку гандлююць і прыезджыя са сваім дазволам на гандаль. Але хутка будзе і мясцовя прадукцыя— адкрываюцца два цэхі па засолу.

Уся рыба, што трапляе ў гандаль, правяраецца на наяўнасць гельмінтаў, на таксічнасць, радыеактыўнасць. Кантралююць сітуацыю ветслужбы, цэнтры гігіены і эпідэміялогіі. Пасля экспертызы складаецца акт— дазвол на гандаль. Указваецца тэрмін рэалізацыі тавару, прычым спецыяльна заніжаны, каб не пацярпеў спажывец: 30 дзён для свежамарожанай рыбы, 14— засоленай.

За парушэнні штрафуюць ад 650 тысяч да 3 мільёнаў. І ўсё ж мы часцяком ужываем няякасны прадукт. Калі-некалі зацікаўлены бок імкнецца ўціснуць на продаж заляжалы тавар.

Пасля Чарнобыля дапушчальныя нормы на прадукты харчавання сталі больш свабодныя. Афіцыйна ўся рыба, што праходзіць кантроль, лічыцца не радыеактыўнай.

— Але гэта не рэальна,— гавораць самі спецыялісты.

*Васіль САВІЦКІ.*
*Фота аўтара.*



# Перашкода– неймаверныя падаткі,–

## *лічыць дырэктар аграпрамтэхнікі Іван Масальскі*

***АСТРАВЕЦ. У "застойныя" часы гэтае прадпрыемства было лідэрам па многіх паказчыках. Тут выраблялі дэталі, пульты кіравання для дрэваапрацоўчых станкоў і пастаўлялі на Вільнюскі завод шліфстанкоў. Таксама былі заказы з Гродзенскага аўтаагрэгатнага завода і маладзечанскага "Спадарожніка". Былі і мясцовыя заказчыкі: у асноўным, калгасы і саўгасы. Аб дні сённяшнім гутарка карэспандэнта "РГ" з дырэктарам прадпрыемства.***

— У нас не лепшыя часы цяпер. Нягледзячы на тое, што ўсе вытворчыя падраздзяленні план выканалі (акрамя аднаго, што займаецца абслугоўваннем і мантажом абсталявання на фермах у калгасах. Адбылося падобнае з той прычыны, што большасць гаспадарак дае заяўкі на разавыя работы, а некаторыя наогул адмовіліся ад нашых паслуг, бо няма грошай, каб разлічыцца), можа ўзнікнуць праблема: амаль ва ўсіх калгасах даільнае абсталяванне дыхае на ладан, а рамонтныя работы праводзяцца час ад часу, таму хутка карміць кароў яшчэ будзе чым, а даіць прыйдзецца бабулінымі метадамі.

У астатнім— сумна. Хаця і зарплату выдаем своечасова, і падаткі неяк выплачваем, але разам з гэтым людзі працай не загружаныя, ёсць неплацяжы.

**— А што ваш немалы аўтамабільны парк!**

— Нашы аўтамабілі ў калгасах практычна не працуюць, калі не браць пад увагу тое, што мы вазілі збожжа на камбікормавыя заводы. Праўда, выдатна працуем з кардоннай фабрыкай "Альхоўка", куды возім паліва, макулатуру. Тут няма пытанняў ні з заказамі, ні з аплатай паслуг.

А то ўзнікала і зусім парадаксальная сітуацыя: два тыдні на Смаргонскай нафтабазе не было дызпаліва. У нас ёсць грошы, ёсць заказы, каб загрузіць аўтамабілі, бо райспажыўсаюз, і гарпалівазбыт маюць патрэбу ў нашым транспарце, а заправіцца няма чым, хоць ваду залівай.

**— Што больш за ўсё перашкаджае нармальнаму развіццю прадпрыемства!**

— Бяда— неймаверна вялікія падаткі. Толькі па зарплаце мы выплачваем іх больш за 60 працэнтаў. І калі ў бліжэйшы час не зменіцца падатковая палітыка, то краху ў эканоміцы, думаю, не пазбегнуць.

**— Многія прадпрыемствы паралельна са сваёй асноўнай дзейнасцю займаюцца гандлем, адкрылі "камкі". Для райаграпрамтэхнікі такая форма не падыходзіць, або ёсць якія-небудзь іншыя задумкі!**

— Я не прыхільнік таго, каб мы займаліся гандлем, а таксама не ўхваляю для свайго прадпрыемства і акцыяніраванне. У апошнім, дарэчы, нядаўна, падтрымаў і працоўны калектыў. Не сакрэт, што каб мы акцыяніраваліся, то наўрад ці змаглі б прадаць свае акцыі. Думаю, што кожны павінен займацца сваёй справай,— пекар пячы хлеб, абутнік вырабляць абутак.

*Гутарыў*
*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Цікаўнасць падвяла

***СМАРГОНЬ. Механізатар саўгаса "Світанак" І. Бурыч збіў на ўласным "Масквічы" чалавека, але не спыніўся, уцёк з месца здарэння.***

Аднак пазней не вытрымаў і запрасіў суседа праехацца разам па той жа шашы.

Пацярпелы загінуў— ад паломаў ног, мноства ўдараў. Работнікі ДАІ аператыўна праводзілі пошук. На месцы наезду, ля Жодзішак, цікаўны злачынец трапіў ім у рукі.

*Тарэса КУМІШЧА.*

# Выйграй тэлевізар

***"Добры дзень! Пішу да вас Вольга Роліч. У мяне вялікае гора. Дзіцё інвалід з дзяцінства. Урачы ў Бараўлянах паставілі яму дыягназ. Як на ліха сапсаваўся лямпавы тэлевізар. Як купіць новы? Мне ж кожны месяц трэба вазіць дзіцё ў Бараўляны. Муж— пасля бальніцы. І якая ў яго зарплата? За 2 бальнічных, за два месяцы, атрымаў 413 тысяч. У мяне зарплата 300 тысяч.***

*У газеце я прачытала пра тэлевізар. І вырашыла вам напісаць і даслаць квіток. Мне, каб купіць тэлевізар, трэба 17 месяцаў збіраць грошы. Цяпер жа зноў усё падаражэе на сто працэнтаў.*

*Шкада вельмі дзіцяці, дактары казалі, што наўрад ці паправіцца. Пасля наркозу яно стала зусім іншым. Нага новая дрэнна выраўніваецца. Вось і вырашыла вам даслаць пісьмо разам з квітанцыяй. А раптам, думаю, і мне ўдача ўсміхнецца. На днях паслізнулася два разы, руку вывіхнула. Прабачце за почырк. Вось і ўсё.*

*Вольга РОЛІЧ,*
*в. Сідаравічы,*
*Мядзельскі р-н."*

Жыццё— нялёгкая штука. Вось і выйгрыш у нашу латарэю можа стаць сапраўднай дапамогай. Мы будзем рады, калі ўсё ж нехта, не зважаючы на магчымасць выйгрышу ў латарэю, дапаможа Вользе Роліч. Жанчына нас аб гэтым не прасіла, але хіба адгукаюцца толькі на просьбы?

**Якія ж умовы нашай латарэі. Той, хто падпісаўся на 2-гі квартал 1997 года на нашу газету, можа даслаць на рэдакцыйны адрас копію (ксера-, факс-, фота-) абанемента. Сярод падпісчыкаў у сярэдзіне красавіка будзе разыграны "кухонны" тэлевізар "Верас". 24 тысячы рублёў— стольні не каштуе ўжо і бутэлька самага таннага алею, але за гэтыя грошы 3 месяцы з тыдня ў тыдзень вы будзеце з "Рэгіянальнай".**

*Мікола ГАЙДУК.*

# Знак бяды

***На сорак дзевятым годзе раптоўна абарвалася жыццё Юрыя Герасіменкі. Мастак, сын мастака, ён быў вядомы далёка за межамі Беларусі.***

Сапраўднай спадарожніцай яго жыцця стала кніжная графіка. Лепшыя майстры пяра давяралі мастаку ілюстраванне сваіх твораў. Кнігі Васіля Зуёнка, Васіля Віткі, Васіля Быкава, народныя казкі, выбраныя творы Якуба Коласа набывалі свой непаўторны каларыт з ілюстрацыямі Ю. Герасіменкі.



Нарадзіўся Юры Герасіменка ў Даўгінаве. Бацька яго, Павел Герасіменка, таксама мастак, вызначыў лёс свайго таленавітага сына, які пасля заканчэння сярэдняй школы №4 у Маладзечне аддаў сябе творчасці. Выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута імкліва ўварваўся ў мастацкую эліту рэспублікі. У 1982 годзе ён быў узнагароджаны Дыпломам імя Ф. Скарыны за ілюстрацыі да кнігі "Выбранае" Я. Коласа, у той самы год ён стаў членам Саюза мастакоў Беларусі. Але Юры заставаўся простым і даступным для паплечнікаў, для вучняў, жыхароў роднага горада, які ён любіў і які любіў Герасіменку. У 1988 годзе, у 600-ю гадавіну Маладзечна, менавіта работа Герасіменкі па выніках спецыяльнага конкурсу была зацверджана афіцыйным гербам Маладзечна.

Беларусі будзе не хапаць Юрыя Герасіменкі— чалавека і мастака. У панядзелак ён знайшоў свой апошні прытулак на могілках у Даўгінаве. Яшчэ адна зорка на нашым небе згасла.






*Ілюстрацыя да аповесці В. Быкава "Знак бяды"; такім ён быў; герб Маладзечна.*

*Рэдакцыя.*

